# БАЦЬКАЎШЧЫНА

Whiteruthenian Newspaper „The Fatherland" Цана 1 н. м.

№ 3 | 27 лістапада 1947 г. | ГОД ВЫДАНЬНЯ 1-ы

## МІНІСТРЫ СПАТЫКАЮЦЦА

### МОЛАТАЎ НА ЎСЕ СПАДЗЯЕЦЦА

**Лёндан (Дэна). —** Савецкі міністар замежных справаў Молатаў, спаніўшыся тут па дарозе ў Лёндан на нараду чатырох міністраў, як паведамляюць із колаў, блізкіх да савецкіх уладаў, прабыў шмат гадзінаў у галоўнай гасподзе савецкае акупацыйнае арміі й канфэраваў там пра праўдападобныя вынікі магчымага адмоўнага рэзультату Лёнданскага спатканьня. Пр ыгэтым разважалася пры бліжэй нявыясьненых абставінах магчымасьць выхаду савецкага прадстаўніка з Хаўруснае Кантрольнае Рады. Аднак, перад сваім ад'ездам із Бэрліну Молатаў зазначыў, што ён усё-ж спадзяецца на ўхіленьне разыходжаньняў у паглядах на будучыню Нямеччыны й Аўстрыі шляхом пэўнага кампраміснага разьвязаньня.

### А НААГУЛ — МАЛА НАДЗЕІ

**Лёндан (дэна). —** Савецкі міністар замежных справаў Молатаў прыбыў у брытанскую сталіцу у нядзелю папаўдні. Амэрыканскі міністар Маршал прыбыўшы ўжо ў пятніцу, а францускі Бідо — яшчэ ў панядзелак. Амэрыканскі вайсковы губэрнатар Нямеччыны, генэрал Л. Д. Клей, таксама прыбыў у Лёндан у нядзелю.

Лёнданскія газэты выказваюць мала надзеі, што на канфэрэнцыі міністраў дойдзе да ўмовы чатырох гаспадарстваў. «Обсэрвэр» кажа, што ўжо цяпер менш абмяркоўваюцца магчымасьці ўдачы, чымся вынікі няўдачы. Аднак, канцавыя вынікі могуць быць менш сэнсацыйнымі, чым спадзяюцца. Палітычная бітва між Усходам і Захадам у поўным ходзе й пераносіцца з дыплёматычнае на іншыя арэны. Лёнданскія дыплёматычныя колы лічацца з тым, што Савецкі Саюз запрапануе на канфэрэнцыі народнае галасаваньне ў Нямеччыне пра будучую палітычную структуру краю. Інфармацыі падаюць, што саветы паставяць яшчэ наступныя прапановы: безадкладнае стварэньне цэнтральных кіраўніцтваў, устанаўленьне цэнтральнага ўраду й зьняцьце межаў між зонамі, скасаваньне ўсіх брытанска-амэрыканскіх двузонных умоваў, зямельная рэформа ўва ўсіх зонах, выдача ўсіх ваенных злачынцаў, нацыяналізацыя ўсіх ваенных банкаў і перадача кантролю над трэстамі прафэсійным саюзам.

### УРАДАВЫ КРЫЗІС У ФРАНЦЫІ

**Парыж (Дэна-Рэйтар). — Прэм'ер-міністар Поль Рамад'е і ўсе сябры ягонага габінэту падаліся ў вадставу. Бюро Прэзыдэнта апубликавала** камунікат, што Рамад'е адыйшоў, каб маглі быць ужытыя мерапрыёмствы, у працэсе якіх цэлая Рэспубліка і ўсе партыі могуць увайсьці ў сваю адказнасьць.

Да ўтварэньня францускага ўраду Прэзыдэнт быў упаўнаважыўшы правадыра францускіх сацыялістых і ранейшага прэм'ер-міністра Лявона Блюма. Аднак, Блюм пры галасаваньні пытаньня даверу ягонаму ўраду ў Нацыянальным Сходзе, не атрымаў патрэбнае для стварэньня ўраду балышыні галасоў (ня стала ўсяго 7 галасоў).

Упаўнаважаны пасьля гэтага да стварэньня ўраду Робэр Шуман, былы міністар фінансаў у габінэце Рамад'е, сябра каталіцкай рэспубліканскай партыі, падаў сваю праграму ўрадаваньня Нацыянальнаму Сходу ў кароткай дэкларацыі, што трывала ўсяго 10 часінаў. Ен заявіў: «Трэба ратаваць Рэспубліку, трэба скончыць із тым, каб людзкой бядой злоўжывалі дзеля палітычных мэтаў». Шуман мае весьці далей палітыку свайго папярэдніка Рамад'е, як унутры, так і навонкі, асабліва ў замежных справах. За важнейшыя пункты ён уважае: ажыўленьне прыватнае прадпрыёмскасьці, змаганьне зь інфляцыяй, захаваньне парадку й павагі да права, нарэшце ўздым маральных і матар'яльных спадзяваньняў краю.

Камуністы Жак Дуклё, выступаючы пасьля Шумана, назваў яго «дробнай манэтай» і «лёкаем Амэрыканцаў».

У габінэт Шумана ўвайшлі 9 сяброў ягонае партыі, у тым ліку і дасюлешні, ад 1944 г. бязьзьменны міністар замежных справаў Бідо, 6 сацыялістых, 4 радыкал-сацыялістыя й 1 незалежны кансэрватар.

Францускі ўрад загадаў безадкладную частковую мабілізацыю першае палавіны пакліканых у 1947 г. здольных да ваеннае службы, якія цяпер знаходзіліся на адпачынку пасьля 6-цёхмесячнага вышкаленьня. Пра значаньне гэтага заходу з боку ўраду няма ніякіх выясьненьняў.

Прыхільнікі Блюма бачаць у ягоным адхіленьні Нацыянальным Сходам канец Рэспублікі й мяркуюць, што набліжаецца дыктатура генэрала Дэ-Голя разам із паважнай небясьпекай грамадзянскае вайны.

### ЗАВАЙСТРЭНЬНЕ Ў ІТАЛІІ

**Рым (АП). — Непакоі ў Італіі трываюць. Прэм'ер-міністар Дэ-Гаспэры прыняў генэрала — камандзера карабінэрау із справаздачай аб** палажэньні. Паводля пазьнейшых паведамленьняў міністэрства нутраных справаў, паліцыя пануе над палажэньнем.

У правінцыю Апулію спатрэбілася паслаць паліцыйныя падмацаваньні. У некаторых гарадох былі разьбітыя розныя ўстановы хрысьціянска-дэмакратычнае партыі. На паўдні краю пашыраюцца забастоўкі. Пры сутычках між сельскагаспадарскімі работнікамі й карабінэрамі было шмат забітых і параненых. У партовым горадзе Бары выбухнула ўсеагульная забастоўка. У Міляне дэманстрацыі ўзрасьлі: камуністыя робяць вулічныя барыкады.

Канстытуцыйны Сход адкінуў патрабаваньне левых ужыць адмысловыя праўныя захады супраць неафашыстых і манархістых. Хрысьціянскія дэмакраты спрабавалі запрапанаваць пашырыць гэтыя мерапрыёмствы на ўсе рухі, якія робяць спробы правесьці зьмены ўраду сілаю. Гэтую прапанову левыя станоўка адкінулі.

### АПОШНІМ ЧАСАМ

★ Канфэрэнцыя чатырох міністраў у Лёндане пачалася. Неспадзявана ўсе згадзіліся ў пытаньні аб парадку дня на аснове амэрыканскае прапановы.

★ У Францыі пачынаецца генэральная забастоўка.

★ Вельмі аўтарытэтныя колы францускае сталіцы падаюць, што францускі генэральны штаб праводзіць першаю фазу пляну дзеля ўхіленьня захопу ўлады камуністымі ў Францыі.

★ Прэзыдэнт Труман прызначыў дасюлешняга правадыра арганізацыі ваенных вэтэранаў генэрала Брэдлі на начальніка генэральнага штабу амэрыканскае арміі. Ен абыйме гэтую пасаду тады, калі адыйдзе цяперашні начальнік генэральнага штабу ген. Эйзэнгаўэр.

★ Вышынскі заявіў на агульным зьездзе Зад зіночаных Нацыяў: «Мы будзем безаглядна баараніць права вэта. Савецкі Саюз падпісаў Хартыю ЗН не дзеля таго, каб здаць змаганьне за свае палітыныя прынцыпы. Мы падпісалі Хартыю, каб весьці далей гэтае змаганьне».

★ Апошнім часам кардон амэрыканскае зоны Нямеччыны перайшло каля 100 паўстанцаў УПА.

## КАБ ЖЫЛА БАЦЬКАЎШЧЫНА

На што-што, а ўжо на паўстаньні - дык як ня бедная гісторыя нашага народу. Собіла-ж бо яму асесьці якраз на растанёх вялікіх гасьцінцаў з Заходу на Ўсход ды з Поўначы на Паўдня, каб так абярнуся і ацераблцца ад навалачы адных ці другіх прыблудаў, ад навалаў тае ці іншае цяжкое рукі то адсюль, то адтуль, то адгэнуль... І давялося гэтак бунтавацца-паўставаць ужо на заранні гісторыі то нашым Дзераўлянам, то Радзімічам, Вяцічам, то нарэшце Палачанам — усё супраць тых-жа гвалтаў, накіданых вараскай рукою зь Кіева. А тады, па слаўнай і магутнай, ды ня ўвекатрываленай залатой пары красаваньня, мусіў уздымаць магілеўцаў клічам вычарпанае цярплівосьці «Пара»-Левановіч, а далей «глушыў паноў Крычаўскі Вашчыла», ды паўсталы народ зноў вёў векапомны правадыр Кастусь Каліноўскі — на іншых ужо гвалтаўнікоў зь яшчэ жарстчэйшай даланёй і цяжейшым кулаком.

Дык і Слуцкае Паўстаньне, што 27-ыя ўгодкі яго адзначаем гэттака — не пяршыня ў тым гістарычным сьцягу народных узрухаў і выбухаў. Але ўсё-ж яно з усіх іх — першае перад намі сяньня, першае й найбліжэйшае, найважнейшае ды найдаражэйшае. Найбліжэйшае, пэўна, не нятаўнай сваёй мінуласьцяй, а для шмат каго й сучаснасьцяй, найважнейшае ня сяньняшняй сваёй юбілейнасьцяй і найдаражэйшае не цаною беспасярэдня здабытых дасягаў. Не, Слуцкае Паўстаньне 1920 г. на ваччу ў нас усіх сяньня, як запраўды першы ў нацыянальнай гісторыі ўжо ня сьлепа-стыхійны, а сьведама мэтаімклівы, хоць можа й адчайны, у кажным разе — да скраю самаахвярны акт збройнае абароны Бацькаўшчыны. І якраз гэтая беззапаветная нацыянальная самаахвярнасьць гэраічных случчакоў — і ёсьць тое найдаражэйшае, што маем мы цаніць у тым гістарычным акце.

«Тым, што першыя паўсталі й пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына» — гэтыя словы, як ведама, вышылі сваймі рукамі слуцкія жанчыны на баёвым сьцягу паўстанцаў. Вышылі, як запавет сваім мужом і сыном, бацьком і братом, як запавет тае нацыянальнае ахвярнасьці, для якое запраўды ніколі няма й ня можа быць ніякіх межаў. І гэтаму запавету шчыра й сумленна аддаліся паўстанцы, рынуўшы ў бой на ўдзесяцёра ці болыш дужэйшага ворага так, што пад сілаю найбольш мо волевых, чымся збройных іхных udараў здрыгануўся і там і тут вораг той, кінуўся нат у вадступаньне, пачаўшы аддаваць зарабаванае, запанікаваў і ледзь астояўся адно пад посьвістамі й подсьцебамі сваіх валадароў-паганятых. Дык гэты-ж запавет — «паміраць, каб жыла Бацькаўшчына» — перададзены нацыянальнай паўстанскай Случчынай, ясна́й зоркай пуцяводнай сьвеціць із Слуцкага Чыну й будзе сьвяціць заўсёды і нам і наступным пакаленьням.

Акт Слуцкага Паўстаньня яшчэ асабліва важны для нас тым, што ён упяршыню паставіў нас упоравень із тымі падняволенымі народамі, якія падобнымі, часам адчайнымі выбухамі змаганьня за вызваленьне задэманстравалі перад сьветам сваю навагу да адваяваньня страчанага найдаражэйшага за ўсякую цану, выклікалі ў гэтага сьвету ўвагу да сябе, а часам навет прызнаньне й аж захапленьне. Бо ў нашай нацыянальнай гісторыі Слуцкае Паўстаньне і для нас і для іншых займае, бясспрэчна, такое самае месца, як у ўкраінцаў, прыкладам, ведамыя Круты й Базар, ці навет — як у палякоў усе славутыя іхныя паўстаньні, канчаючы на ня так даўным Варшаўскім. Адно, што няспрыяльныя гістарычныя абставіны, а найбольш спрычыненая імі на-

шая агульная малазнанасьць у сьвеце, як сваім часам, так і дасюль не дала гэтай падзеі здабыць шырэйшы розгалас сярод іншых народаў. Дык хоць сяньня трэ было-б падумаць нам, між іншага, і над тым, як-бы адрабіць гэта хоць часткава, хоць крыху пазнаёміўшы сьвет і з нашымі імкненьнямі і з нашым за іх самаахвярным змаганьнем.

Сёлета й гэтта, сярод нашых выгнанцаў у амэрыканскай зоне Нямеччыны, дзень угодкаў Слуцкага Паўстаньня супадае з пачаткам заініцыяванага тыдня малітвы за Бацькаўшчыну. І трэба прызнаць за асабліва шчасьлівае гэтае супаданьне. І ня толькі таму, што сяньня ўсе тутэйшыя нашыя суродзічы добрае волі й веры, ўздымаючы да Ўсемагутнага голас шчырай малітвы якраз за тое, «каб жыла Бацькаўшчына», маюць лішнюю нагоду ўспамянуць пры гэтым і ўсіх палеглых за Яе, а пэўна-ж, адныя зь першых між іх — векапомных Слуцкіх Герояў. І навет не таму, што гэтая нагода навядзець нас і на малітоўную думку ад тых, што й сяньня дзесь у нашых далёкіх лясох і пушчах ахвяруюць сябе таксама да канца, як і гэныя блізкія гістарычныя папярэднікі іхныя. А найбольш таму, што кажны з нас, молячыся за Родны Край, мусіць ня спушчаць із вока даўно й агульна ведамага: адна малітва, бязь дзейнай ахвярнасьці — нічога, зусім нічога. Даць кажнаму з нас сілы «пайсьці паміраць, каб жыла Бацькаўшчына» — так як ішлі й паміралі Случчакі, як ідуць і паміраюць недзе й сяньня, «ахвяруючы сабою кажны дзень, кажны час» — аб гэтым хай памоліцца кажны сяньня, і ня толькі сяньня, а й штодня, штодня-ж будучы гатовым і прыняць пасьвячэньне ахвяры зузвыш, калі яно пашлецца адтуль на голас малітваў шчырых сыноў народу.

## ПАРТЫЗАНКА Ў ЛІЦЬВЕ Й БЕЛАРУСІ

Як паведамляе газэта «Контынэнталь Ньюс Сэрвіс» ад 24.10., партызанскія аддзелы на Ліцьве й Беларусі налічваюць каля 300 тыс. чал. У баёх з партызанамі, побач із савецкімі войскамі бяруць удзел таксама й нямецкія аддзелы.

## КАРОТКІЯ ВЕСТКІ

Польшча ўсё больш і больш робіцца паліцыйным гаспадарствам, — заявіў у Лёндане ўцёклы з Польшчы ведамы палітычны дзеяч Мікалайчык.

Між 21-23 лістапада адбыліся першыя ў гісторыі Кітаю выбары ў парлямэнт.

## ХРОНІКА АСНОЎНЫХ ПАДЗЕЯЎ СЛУЦКАГА ПАЎСТАНЬНЯ

**1918** — Арганізацыя ў Слуцку, у працэсе ўсебеларускага нацыянальнага дэмакратычнага незалежніцкага руху, **Беларускага Нацыянальнага Камітэту** на чале з **Паўлам Жаўрыдам.** Лёквідацыя Камітэту й арышт П. Жаўрыда бальшавікамі (сьнежань 1918).

**1920** — Пераход Случчыны разам зь іншымі часткамі Беларусі з бальшавіцкае пад польскую ўладу. Уцёкі з бальшавіцкае няволі П. Жаўрыда й аднаўленьне ім «Беларускага Нацыянальнага Камітэту» ў Слуцку. Арганізацыя **народнае міліцыі** дзеля самаабароны (500 чал.).

Крытычныя мамэнты ў польска-бальшавіцкай вайне (бальшавіцкі наступ на Варшаву й вялікае адступленьне адтуль, імкненьне бальшавікоў і палякоў дагаварыцца міжсобку коштам падзелу Беларусі). Скліканьне слуцкім Бел. Нац. Камітэтам беларускага зьезду Случчыны на 14 лістапада.

**14-га лістапада. Першы Беларускі Зьезд Случчыны** — 107 прадстаўнікоў з г. Слуцку й 15 воласьцяў Слуцкага павету, прадстаўнікі ад беларускіх аддзелаў генэрала Булак-Балаховіча, П. Жаўрыд, як камісар ураду Беларускае Народнае Рэспублікі на Слуцкі павет. Старшыня Зьезду — Русак, заступнік старшыні — Пракулевіч. Абраньне Рады Случчыны на чале з У. Пракулевічам.

Рэзалюцыя Зьезду: «Першы Зьезд Случчыны, скліканы ў ліку 107 асобаў, вітае Найвышэйшую Раду Беларускае Народнае Рэспублікі й заяўляе, што усе свае сілы аддасьць на адбудову Бацькаўшчыны, катэгарычна пратэстуе супраць заняцьця нашае Бацькаўшчыны чужацкімі й самазванымі савецкімі ўладамі. Хай жыве вольная, незалежная Народная Беларуская Рэспубліка ў яе этнаграфічных межах.»

**21-га лістапада.** Дэклярацыя Рады Случчыны: «У мамэнт самавызначэньня ўсіх народаў і змаганьня іх за сваю самастойнасьць і свабоду Беларуская Рада выконвае волю сялянства, паслаўшага яе й даверыўшага ёй абарону незалежнасьці нашае Бацькаўшчыны, заяўляе ўсяму сьвету аб дамаганьнях, намерах беларускага сялянства, аб тым, што Беларусь павінна быць вольнай незалежнай Рэспублікай у яе этнаграфічных межах. Абвяшчаючы аб гэтым і зьяўлюючыся выразіцелькай волі народу, Слуцкая Рада дакляруе цьвёрда стаяць за незалежнасьць роднае Беларусі й бараніць інтарэсы сялянства ад гвалту з боку чужаземных захопнікаў і ў выпадку патрэбы навет сілаю аружжа, ня гледзячы на лічбовую перавагу ворага, думаючы, што наша справа — справа праўдзівая, а праўда заўсёды закрасуе».

Загад Вайсковага Камандваньня Рады Случчыны вайсковым аддзелам і народнай міліцыі гуртавацца ў с. Семежаве. Згуртаваньне ў Семежаве 10.000 паўстанцаў. Утварэньне зь іх **Першага Беларускага Слуцкага Палка,** пад камандай палкоўніка **Гаўрыловіча.** Утварэньне **Другога Беларускага Грозаўскага Палка** пад камандай капітана **Сяменіка.** Задзіночаньне Слуцкага й Грозаўскага Палкоў у **Першую Слуцкую Дывізію** пад камандай капітана **Анцыповіча,** пасьля — капітана **Сокал-Кутылоўскага.**

**27-га лістапада.** Наступальная баёвая дзейнасьць Першае Слуцкае Дывізіі супраць бальшавікоў каля сёлаў Быстрыцы, Верабейчыцаў, Васільчыцаў, Чарнагубава, Васілішак, Дашнова, Лютавічаў, Мацкевічаў і мястэчак Капыля, Цімкавічаў, Вызны ды інш. Адабраньне ад бальшавікоў мястэчка Цімкавічаў і іншых пунктаў.

Адступленьне паўстанцаў да ракі Лань, ўдалыя контратакі супраць бальшавікоў. Пераходы чырвонаармейцаў на бок паўстанцаў. Кіданьне бальшавікамі супраць паўстанцаў вялікіх вайсковых масаў з камуністых і азіятаў.

**28-га сьнежня.** Змушаны бальшавіцкай перавагай пераход Слуцкай Дывізіяй польскае мяжы, раззброеньне й інтэрнаваньне яе палякамі каля Сіняўкі, з пазьнейшым перанясеньнем у Беласток.

**1924.** Адраджэньне нелегальнага беларускага нацыянальнага супрацьбальшавіцкага паўстанскага руху на Случчыне пад кіраўніцтвам былога слуцкага паўстанца **Юр'я Лістапада.**

**1926.** Разгром «лістападаўцаў» бальшавікамі й судовы працэс над імі ў Менску.

**М. Карэнь.**

# ПОМНІК

(Памяці Слуцкіх паўстанцаў)*

Якія вятры цяпер абвяваюць, якія краскі цяпер упрыгажаюць магілу гэтага беларускага юнака на берагох Паўночнага мора?

Хто ён гэткі? — Ніхто, зусім ніхто...

Але можна адказаць таксама інакш, і гэты другі адказ будзе гэткім-жа праўдзівым, як і першы: ягонае імя — Алесь, ён быў лятуценьнікам, чулым і запальным, і вечна верным найлепшаму сэнсу двох словаў. Гэтыя словы: Воля Беларусі.

Дзеля мяне ён стаўся векапомным ужо з колькіх боек і пазьнейшых здарэньняў, а найбольш — із 5 красавіка 1945 г., калі мы, гуртком беларусаў у сотнях чужынцаў, галодныя й абдзёртыя, праходзілі праз Капэнгагэн. Тут я першы раз пабачыў, як дужа кахаў Алесь сьветлае, чыстае жыцьцё, якое ад нас ужо даўно было адабранае й згубленае на няведамы час. Мы праходзілі праз гэты горад як у сьне, нашыя брудныя боты быццам зьнікалі з вымытага веснавым дажджом тратуару. Наваколо ўсё распушчалася, усё здавалася гэткім пяшчотным, прыгожым, нябачаным. Мы ня ўмелі ўсяго гэтага ні агледзець, ні адчуць, мы проста мелі неспадзеўку і ўспаміны, бо гэткімі мы жадалі бачыць нашую Вільню, Менск. У нашых вачох мусіць было нешта непрыемнае, бо ніхто із спатыканых нам ня ўсьміхаўся...

... Нашыя далейшыя дні ня прыносілі нам нічога новага. Мы зьнікалі ў балоце ўсё больш. Увосень мы былі ўжо за калючым дротам, дзе найвышэйшымі будынкамі былі вежы вартаўнікоў і гадзіньнік над баракам-кухняй, стрэлкі якога што чверць гадзіны даўгой жэрдкай папіхалі наперад прызначаныя на гэта людзі. Шэрыя, сумныя тысячы, што змораныя назіралі гэты рух гадзіньніка, заўсёды лягчэй уздыхалі — вось ізноў чверць гадзіны мінула ў вечнасьць. Так, вышэй там нічога ня было за вартавыя вежы і гадзіньніка, навет прыемнага неба й зораў там ня было, толькі вечар, імгла і нізкія, вечна ліючыся, хмары.

Алесь быў адасоблены ад мяне, бо знаходзіўся ў бараку інвалідаў, а я сярод здаровых. Толькі вечарамі ён прыходзіў да мяне, калі адчуваўся змарыўшыся і зьмёрзшы. Зразумела, мог і я хадзіць да яго, але гэта было бескарысна нам абодвум. У нашым бараку я быў за качагара, таму лепшым сябром мог даць маленькую шчылінку ля гарачага полымя вугальля, і гэта заўсёды забесьпячаў Алесю. Шмат на гэта бурчэлі — хай кажны грэецца ў сваім бараку, але я неяк усё залагаджаў. А гэта было шмат, вельмі шмат. У сваім бараку Алесь не трапляў да агню, першае, дзеля свае чульлівасьці, а другое таму, што іншыя былі сьмялейшымі й нахабнейшымі за яго. Калі-ж ты, чалавеча, ня мог прыцісьнуцца проста да печкі ці сесьці перад полымем, дык печка ня мела ніякага значэньня: зімное й змрочнае памешканьне бараку заставалася падобным да лядоўні з вогкім дахам.

Алесь балюча адчуваў варожасьць людзей бараку да яго і таму найлепш прыходзіў да мяне вечарамі па дзясятай гадзіне, калі гукамі трубы абвяшчалі аб цемры й сьне. Здаралася, што ля печкі мы заставаліся толькі ўдвох, а гэта й былі найпрыгажэйшыя часіны таго жыцьця. Мы моўчкі гатавалі ў пушках ад кансэрваў гарбату й пілі яе памаленьку, бо, седзячы ля вагню, нашыя сьпіны неміласэрна мерзьлі. Глыток гарачае гарбаты быў добрым лекам...

Аднойчы ўвечары, калі людзі нашага бараку яшчэ ня спалі, Алесь прыйшоў куды раней за звычайны час. Ён быў дзіўна, але прыемна ўсхваляваны, і толькі з напружаньнем мог выслухаць прамову філёзафа нашага бараку, які, паказваючы на паперы містычныя колы, тлумачыў крытыку чыстага розуму Канта. А філёзаф быў згодзен паўтараць бясконца, каб толькі нехта пакінуў «дым».

Калі ўрэшце мы з Алесем засталіся ўдвох, ён ужо ня вытрываў ні часінкі й выцягнуў з кішані кніжачку зацемак.

— Што ты на гэта скажаш? — запытаўся ён без тлумачэньня, з запалам.

Я адказаў яму напэцканым сажай пытальнікам.

— Ага, — хапіў ён шпарка, — ты-ж яшчэ нічога не разумееш. Я ня спаў усю ноч, і сяньня таксама не адпачыў ні часінкі. Ці ты разумееш: я буду будаваць помнік!

— Помнік сабе?

— Я-ж табе ўжо казаў, што ты дурань. Ўсё табе лыжкай у рот улі. Я буду будаваць помнік Беларусі!

Тады Алесь адчыніў сшытак і пачаў гартаць балонкі, усё падрабязна й доўга тлумачачы. З апавяданьня я зразумеў, што ён усё падрабязна аблічыў і абдумаў. Побач із малюнкам помніка на балонах ягонага сшытка былі накіды розных дэталяў і аблічэньняў. Зь ягоных тлумачэньняў вылучаліся заўзятасьць, дух і вера, і я не сумляваўся, што ён свой намер можа зрэалізаваць, калі будзе ў іншых абставінах. Вышыня помніка была аблічаная на 2 м., апрача таго, для яго прадбачыўся пляц з выкладзенай на ім каменчыкамі гісторыяй Беларусі. Тады якраз быў дадзены нам загад прыбраць ваколіцу баракаў, і каля некаторых ужо зьявілася мазаіка з выпаленыяў вугальля, кавалкаў цэглы й шкла. Але-ж помнік? Каб раптам паміж двох баракаў уздымаўся белы й горды помнік Беларусі? Не, гэта запраўды было немагчыма.

— Цудоўна, Алесю, дзіўна, але дзе-ж ты возьмеш матар'ял на гэта? Ідзя магутная, але нас мала сярод чужакоў, і я сумляюся...

— А я не сумляюся. Мне ўсё ведама, усё аблічана. Зразумела, трэба будзе вельмі падцягнуцца, шмат ахвяраваць і страціць, але-ж гэта варта таго. Я ведаю, што нас няшмат, але гэта

* З рукапіснага часапісу «Мэта» (№ 5-6, 1946 г. Глядзі, між іншага, папярэдні нумар нашае газэты, артыкул «На чыстым аркушы») — Рэд.

# У СКАЎТАХ

## 2-я ЎГОДКІ СКАЎТЫНГУ Ў АМЭРЫКАНСКАЙ ЗОНЕ

16 лістапада ў лягеры Міхэльсдорф адбылося сьвяткаваньне 2-іх угодкаў заснаваньня нашага скаўтынгу ў амэрыканскай зоне Нямеччыны. Два гады таму, 15 лістапада 1945 г. зарганізаваўся першы сьцяг беларускіх скаўтаў у Рэгенсбургу.

Сьвяткаваньне ўгодкаў пачалося раніцой, калі ў лягернай царкве адбылося адпаведнае набажэнства. А 5 гадз. ўвечары ў лягерным клюбе пачалася ўрачыстая частка сьвяткаваньня. Перад вялікай грамадою скаўтаў і жыхароў лягеру ды гасьцей — скаўтаў зь іншых лягераў — зь Віндышбэргердорфу, Остэргофэну, Майнлейсу й інш. — былі ўрачыста ўнесеныя сьцягі 1-га сьцягу скаўтаў і 2-га сьцягу скаўтак. У ўрачыстай ціішы быў прачытаны першы загад 1-га сьцягу.

Заступнік галоўнага кіраўніцтва скаўтаў, штандаровы штандару «Бабарыя» расказаў аб працы й поступах першага сьцягу за гэтыя два гады.

З прывітальнымі словамі выступалі: апякун штандару «Баварыя», апякун першага сьцягу, дырэктар гімназіі імя Я. Купалы, сьцяжны 2-га сьцягу ў Остэргофэне й інш.

Пасьля ўрачыстай адбылася мастацкая частка. Сіламі 1-га й 2-га сьцягу быў дадзены невялічкі канцэрт, у якім вельмі добра выпаў мантаж «Кастусь Каліноўскі».

## 3-ці СЬЦЯГ У МІТЭНВАЛЬДЗЕ ПРАЦУЕ

Здавалася-б, што пераезд беларускага лягеру Вогэнштраўс у Мітэнвальд запыне працу скаўтаў на некаторы час. Але якраз наадварот. Скаўты пачалі больш актыўна працаваць. Вялікая заслуга ў гэтым належыць беларускаму лягернаму актыву. Штаб Штандару спадзяецца, што нашыя скаўты ў Мітэнвальдзе вырастуць у моцную адзінку беларускіх скаўтаў-альпійцаў.

## НАЙБОЛЬШАЕ СЬВЯТА Ў МАЙНЛЕЙЗЕ.

23. 11. 1947 г. 4-ы Сьцяг перажываў найбольшае сваё сьвята. Гэта дзень злажэньня прысягі. На сьвяце былі прадстаўнікі Галоўнага Кіраўніцтва ЗБСЧ, Штабу Штандару, сьцяжныя І-га, V-га, VI-га Сьцягоў, колькі скаўтаў І-га хлапецкага і ІІ-га дзявоцкага Сьцягоў, а таксама расейскія скаўты. Па падняцьці сьцягў й ранішняй маліцьвы моладзь радамі падалася ў царкву. Там быў асьвячаны сьтяг, які ахвяроўвала скаўтам беларускае грамадзтва лягеру. Урачыстасьць даручэньня сьцягу й здаваньня прысягі адбылася пры скаўцкім вогнішчы ў залі. Найстарэйшы паважаны жыхар лягеру даручыў сьцяжному 4-га Сьцягу сьцяг із словамі: «Зрабеце тое, чаго мы не маглі зрабіць».

Сьцяжны 4-га Сьцягу падзякваў грамадзтву за сьцяг і за тую памогу, якую давала грамадзтва ў працы Сьцягу.

На канчатак сіламі скаўтаў 4-га Сьцягу быў наладжаны канцэрт. Таксама госьці не засталіся ў даўгу й далі на чэсьць сьвята 4-га Сьцягу свой канцэрт.

Неўзабаве 4-ы Сьцяг будзе здаваць экзамэны на наступныя скаўцкія ступені.

## УВАГА!

Штаб Штандару «Баварыя» ЗБСЧ працуе над гісторыяй Беларускага Скаўтынгу. Дзеля гэтае мэты зьбіраюцца адпаведныя матар'ялы. Усіх удзельнікаў беларускага скаўцкага руху просім падаваць магчыма захаваныя матар'ялы ці собскія ўспаміны з жыцьця беларускіх скаўцкіх арганізацыяў на Бацькаўшчыне.

Весткі просім пасылаць на адрыс:
Whiterutoenian Scout Association, Michelsdorf b. Cham. (Obpf) 13a.

**Н. Арсеньнева.**

## НА СЛУЦКІЯ ЎГОДКІ

Гула штось глуха ноч,
Сьляпая, чорная.
Чарнейшыя ці ёсьць у лістападзе?
Да гэткай цермы золкай ня прыгорнешся...
Гарнуўся ўсё-ж і той і гэты —
Што-ж парадзіш?

Каторую пару брылі мы нясупыннаю,
Нязрушнымі навечна тут прыстаць.
І найжвавейшыя жадалі ўжо хваінамі
Незрушнымі навечна тут прыстаць.

Мы йшлі, ня зьдзеіўшы таго,
Што ў зыркім полямі
Гарачае крыві зрадзілася, цьвіло.
Затое ў клёнах, восеняй аголеных
За намі паланела роднае сяло.

Мы йшлі, а нашы слуцкія сасоньнікі
Тулілі нас бязрадна ў туманы,
Мы йшлі...
ды не на Ўсход
у вязь старое кронікі
Уплесьці новы чын. . .
ішлі на Захад мы. . .

Ці помніў хто, што някш
Нядаўна сэрцы біліся,
Што накшы правадыр,
Ня боль глухі, нас вёў?
Крывавілі шляхі апошнімі рабінамі
І першаю юнацкаю крывёй?

Гула штось глуха ноч,
Сьляпая, чорная.
Чарнейшыя ці ёсьць у лістападзе?
На душаў дно,
На восенскія ворывы
Асеньні, золкі сум залою падаў.

А мы —
ішлі, ішлі, ішлі, хаваючы
Апошняе — гадоў тых марных жменю.
Ішлі на Захад мы. . . Хай так. . .
а дачакаемся
Завернем на Усход,
І мы, і наша зьмена.

## ІРО АПЛАЧВАЕ КОШТЫ ПЕРАСЯЛЕНЬНЯ УСІМ УЦЕКАЧОМ

Як паведаміў сп. П. Б. Эдвардс, шэф ІРО амэрыканскае зоны, адгэтуль ІРО будзе аплачваць кошты перасяленьня й за тых уцекачоў, што не дастаюць ні апекі, ні ўтрыманьня ў лягерах. Гэтая пастанова мае сілу адваротнага дзеяньня на папярэдні час, калі на падобных асобаў пашыраліся абмежаньні ў гэтым дачыненьні, што цяперашняй пастановай здымаюцца. Ў амэрыканскай зоне пад гэтую новую пастанову падпадае 15.814 перамяшчэнцаў, што жывуць прыватна.

мяне не палохае. Я сам зраблю ўсё, калі іншыя не дапамогуць, але давяду, што жыве Беларусь. Я хачу дачакацца часіны, калі ўсе нашыя, што згубілі сябе сярод чужынцаў, як пабачаць маю працу, дык хоць у сэрцы знойдуць сваё імя, хоць на часіну забудуцца на гэтае жыцьцё і ў сэрцы прыдбаюць веру ў несьмяротнасьць Беларусі. І я сам хачу выкінуць зь сябе гэтую абыякавасьць і безнадзейнасьць. Ня ведаю, ці разумееш ты мяне, але якраз таму я жадаю ўкласьці ў гэтую працу ўсю волю й сілу. Калі тады, хоць на часінку, кажнага беларуса агорне вера ў сьветлую будучыню — я буду мець добрую заплату, мая праца поўнасьцяй апраўдаецца.

Здарэньні далейшых дзён былі надзвычайнымі. Алесь бадай зусім ня спаў і ня еў, ён поўнасьцяй забыўся на жыцьцё й асяродзьдзе. Дастаўшы троха цымэнту й вапны, якую прыносілі яму тыя, што працавалі вонках ля будаўніцтва, ад раніцы ён ужо завіхаўся, усёроўна, ці ліў дождж, ці марозіла, ці дзьмулі сіверныя вятры, што навет стрэхі баракаў зносіла. Навет і зь цемрай ён не адпачываў. У сваім ложку ён зрабіў дзіўное складзішча й лябараторыю спробаў. У бязьлічных пушках ён нарабіў мешаніны розных рэчываў, якія квасьлі й паравалі. Найважнейшым было знайсьці патрэбнае рэчыва дзеля постаці дзяўчыны й сонца, што ўзыходзіла над ёй і Пагоняй. Алесь быў бясконца рады, калі знайшоў нейкую сумесь, якую было лёгка ляпіць і якая мела ясны колер ды памалу сохла, не шчапаючыся. Гэта знайшоў ён пасьля даўгіх спробаў іназіраньняў, зьмешваючы ў вадпаведнай колькасьці пясок із глінай, дадаючы вялікі працэнт парашку для дэзынфэкцыі, які дастаў за табаку ад санітара. Гэты вынахад Алесь паведаміў мне ў сьвятым натхненьні. Сьвятым, кажу я. Можа й ня правільна, але я ня ведаю іншага слова на той выраз, тое захапленьне, тую веру й радасьць, што агарнулі Алеся.

Мае пачуцьці былі зусім дзіўныя. Я ня мог цешыцца разам з Алесем, хоць разумеў і падтрымваў яго. Я ня мог ня бачыць таго, як ён што дзень, то губіў сябе. Ягоныя рукі апохлі ад недаедкаў і сьцюжы, твар . . . Калі-б ён лёг у ложак і зачыніў палымянныя ад натхненьня вочы, дык ніхто-б не сказаў, што ён яшчэ жывы. Ягонае захапленьне прыводзіла мяне ў жах, бо я ня ведаў, як яму гэта сказаць. Калі-б я закідаў яму, я-б яго моцна пакрыўдзіў, а хваліць і ўслаўляць яго — выглядала-б, быццам я падштурхваю яго да пагібелі. Аднойчы я ўсё-ж сказаў яму:

— Алесь, ці адчуваеш ты, што ты робіш з сабой? Я не магу разам з табой цешыцца, ты гэтага ня вытрываеш да канца, ты . . .

— Усяроўна. Я вельмі добра ведаю й разумею, што адбываецца зы мной, але тое, што я цяпер раблю, больш вартае, чымся я. Спачатку ўсе абміналі і ўсьміхаліся, а сяньня ўжо й чужакі натоўпам назіраюць навокал. Я чую, што яны дзівяцца маёй працы, я чую, што бачачы яшчэ толькі паўгатовае, беларусаў ужо захапляюць тыя пачуцьці, якія жадаў я ў іх запаліць. А калі гэтыя пачуцьці захопяць усіх, што жывуць тут, беларусаў, калі кажны з нас абдумае свой дагэтулешні шлях, тады ўсе разам мы адчуем адну вялікую, агульную думку — веру ў будучыню, веру Беларусі й ейнае незалежнасьці. Калі я дасягну гэтага — я гатовы за гэта ахвяраваць сябе!

— Але навошта гэтак шпарка? Ты можаш адпачыць, палепшаць, а тады зноў . . .

— За месяц усё мусіць быць гатова, бо ты-ж ведаеш, што тады будуць дні Слуцкага паўстаньня. Таму. Дабранач!

. . . За два тыдні да мяне прыйшоў чалавек і паведаміў, што Алесь жадае гутарыць зы мной. Сам ён прыйсьці ня можа. Ахоплены непакоем, я пайшоў да яго. Праходзіў ля зробленага Алесем помніка, які быў скончаны й пакрыты сшытымі кавалкамі брызэнту, поўнасьцяй падрыхтаваны да адчыненьня. Аб гэтым гаварыла ўся грамадка, праўдзівей жменька беларусаў, і апрацоўвала праграму адчыненьня. Навет чужынцы ўсяго лягеру былі захопленыя . . .

Алесь ляжаў на ложку апрануўшыся. Побач быў і клунак ягоных рэчаў. Пабачыўшы мяне, ён усьміхнуўся й сказаў:

— Ну, вось, я еду адпачываць у больніцу. Зусім на тваё жаданьне. Ты-ж дапаможаш мне дайсьці да амбуляторыі?

Я ня мог сказаць ніводнага слова, і Алесь сам цягнуў:

— Я разумею цябе, ты злуеш на мяне. Але калі ты запраўды мой сябра, дык цешся разам зы мной. Ты-ж бачыш, што я зусім ня сумны...

Аднак, я ня мог цешыцца. Мяне гнялі дзіўныя, неазначаныя сум і туга, калі мы абодвы йшлі ў амбуляторыю. У левай руцэ я нёс Алесеў клуначак, а правай трымаў ягоны локаць, які быў зусім бясьсільным. Ля амбуляторыі ім запякаваліся санітары, і мы разьвіталіся. Гэта была асаблівая ростань, бяз слова. Калі Алесь прасіў пісаць яму ў больніцу, я толькі кіўнуў галавой і сьціскаў ягоныя зімныя, нячулыя пальцы. Затым хворыя пайшлі да варотаў, за якімі чакала на іх цяжкая аўтамашына. Я стаяў на дарозе, і мне было цяжка нешта бачыць. Высокія вароты з калючага дроту, людзі й шэрае неба за дратамі зьліліся ў маіх вачох у дрыготкую, гарачую імглу . . .

. . . Апошнія дні лістапада былі сьцюдзёнымі. Днямі сонца выглядала чырвоным і не магло прабіцца праз густую, сьлізкую імглу, якая агартала ўсю ваколіцу. Але 27 лістапада, у дзень першых боек слуцкіх паўстанцаў, а гадзіне 12 бадай усе тысячы людзей лягеру зыйшліся ля помніку Незалежнае Беларусі. Калі брызэнт зваліўся й помнік адчынілі, калі з грудзей жменькі беларусаў загучэў гімн Беларусі, гэта была часіна, на якую не забудуся да сьмерці. Навет чужынцы сьпявалі разам. Ты мог стаяць у радох гэтых шэрых людзей таксама без пачуцьцяў і думак, але нейкае вялікае ўзбуджаньне гарачымі рукамі трымала тваю душу й нясло панад імглой і далячынёй. У гэтай часіне ўсе бачылі толькі адзін край на сьвеце й думалі толькі адну думку — Ты будзеш!

Аб усім гэтым я напісаў Алесю, але й сяньня ня ведаю, ці прачытаў ён мой ліст, бо да нас Алесь не вярнуўся.

# ПА НАШЫХ КУТКОХ

### ДЭМАНСТРАЦЫЯ НАРОДНАГА МАСТАЦТВА

На выстаўцы мастацкіх твораў перамяшчэнцаў — ДП у лягеры Шляйсгайм асобным аддзелам было задэманстраванае й нашае народнае мастацтва, галоўна ткацкія вырабы. Вялікае месца ў ваддзеле занялі экспанаты з нашага Палесься, прыцягваючы як сваёй колькасьцяй, так і якасьцяй. Увесь аддзел выклікаў вялікую ўвагу наведвальнікаў-чужынцаў ня толькі з ДП, але і з гасьцей (у тым ліку й амэрыканцаў), а таксама суцешыў зразумелай радасьцяй сваіх.

### І Ў ШЛЯЙСГАЙМЕ — ВЭТЭРАНЫ

Тут таксама зарганізаваўся аддзел Задзіночаньня Беларускіх Вэтэранаў.

### ПОМНІК ПАЛЕГЛЫМ

Аддзел Задзіночаньня Беларускіх Вэтэранаў у Остэргофэне пастанавіў паставіць помнік палеглым змагаром за Бацькаўшчыну. Зьбіраюцца ахвяры на гэтую справу.

### ПАВЯЛІЧЭНЬНЕ ЛЯГЕРУ Ў ВАТЭНШТЭЦЕ

Як даведваемся з часапісу «Шляхам Жыцьця», лягер АБЦ у Ватэнштэце апошнім часам павялічыўся як тэрытарыяльна, далучэньнем колькіх баракаў лягеру 23, ачышчанага чэхамі, так і ў людзкім складзе, які даходзе цяпер да 800 чал.

### НОВЫЯ ЧАСАПІСЫ

У Лёндане выйшаў № 1 новага двутыднёвага часапісу «Беларус на чужыне». Друкуецца на ратататары кірыліцай і лацінкаю.

У Мюнхэне выйшаў № 3 (17) часапісу «Студэнцкі Кліч», у Ватэнштэце — № 9-10 (21-22) часапісу «Шляхам Жыцьця».

Як даведваемся, днямі мае выйсьці № 2 рэлігійнага часапісу «Божым Шляхам», друкаванага ў Парыжы.

### БЕЛАРУСЫ Ў ПОЛЬШЧЫ

Паводля дадзеных лёнданскага часапісу «Беларус на чужыне», у Польшчу выехала ад 250 да 300 тыс. беларусаў — пераважна каталікоў, галоўна зь Віленшчыны, Лідчыны, Ваўкавышчыны й Піншчыны. Шмат таксама выехала й праваслаўных, утаўшы веравызнаньне.

Польскія ўлады параскідалі беларусаў ад Штэтыну па ўсім паўночным Памор'і, але галоўную масу скіравалі на Альштынскія багны й тапелі, дзе дагэтуль не астоялася ніякая калёнізацыя. Абставіны новага быту беларусоў у былых Прусах, каля Альштыну вельмі цяжкія. Яны жывуць цэлы час пад пагрозаю выданьня назад саветам пры выяўленьні свае беларускасьці. Аднак, усё-ткі цэлыя сёлы міжсобку гавораць пабеларуску, аб чым ужо ў сваіх рэпартажах здолела зацеміць Варшаўская прэса.

У самым Альштыне праваслаўныя беларусы дамагаліся адчыненьня царквы, але ўлады змусілі ўвесьці ў набажэнства польскую мову.

Каб зьліквідаваць суцэльныя беларускія асяродкі, апошнім часам у Альштынскае ваяводзтва улады перасяляюць украінцаў, мяшаючы іх разам зь беларусамі й мазурамі ды палякамі.

Другі найвялікшы беларускі асяродак калёнізацыі — ваколіцы Штэтыну, дзе шмат перасяленцаў зь Віленшчыны, Слонімшчыны й Ваўкавышчыны.

### ПОЛЬСКІЯ ЧАСАПІСЫ — ПРА НАШЫЯ СПРАВЫ

Апошнім часам некаторыя польскія эміграцкія часапісы, якія выходзяць у Лёндане, пачалі зьмяшчаць матар'ялы пра нашыя нацыянальныя справы. Так, часапіс «За Вольносьць і Неподлеглосьць» у № 6 зьмясьціў інфармацыйны артыкул Ф. Бартуля «Беларусы на дарозе да лепшае будучыні». Як зазначае Рэдакцыя, артыкул гэты надыйшоў «на ейную просьбу зь беларускіх колаў».

Часапіс «Р.Ц.С.» («Хрысьціянска-Грамадзкі Рух») зьмясьціў у № 7-8 вялікі артыкул В. К. — «Рэлігійны дзейнік ў жыцьці беларусаў». І гэты артыкул таксама, паводля Рэдакцыі, «атрыманы зь беларускіх колаў». Апрача таго, гэты-ж часапіс у тым-жа нумары ў іншых артыкулах (як «Тры роўніцы супольнага дзеяньня» й інш) закранае некаторыя выказаньні нашых дзеячоў.

# НАС СПАТКАЛІ

### «ЯК ВАДА Ў ПУСТЫНІ»

Ад выхаду першага нумару нашае газэты Рэдакцыя не перастае атрымваць із розных куткоў лісты суродзічаў з прывітаньнямі, пажаданьнямі й выказваньнямі пачуцьцяў, выкліканых зьяўленьнем друкаванае газэты ў роднай мове па так даўгім «безгазэцьці». Ня ведаю, як выразіць свае пачуцьцё радасьці ў сувязі з выпускам у сьвет першага нумару газэты, друкаванай у беларускай мове» — піша сп. Уладыслаў Б. зь Любэку, і гэта-ж у розных толькі формах паўтараецца ўва ўсіх іншых лістох да нас. Сп. Л. із Гановэру кажа навет аб «вялікім шчасьці». «Я вельмі рады, — піша ён, — што знайшлася й тут на чужыне нашая нацыянальна-стойкая інтэлігенцыя, якая патрапіла дамагчыся перад вайсковымі ўладамі дазваленьня на сваю родную нацыянальную газэту». »Ваш крок ёсьць ня толькі крокам вядзеньня выхаваўчае працы сярод беларусаў, якія заняпалі нацыянальна, але ён ёсьць падняселеньнем нашага нацыянальнага прэстыжу сярод іншых нацыяў» — піша другі спадар, Расьціслаў З. з таго-ж Гановэру. «Няхай яна (нашая газэта) будзе зоркаю, якая асьвеціць сама цёмныя куточкі на чужыне» — жадаюць нам із Бамбэргу вуснамі сп. А. М.

Асабліва ўсхваляваны й хвалюючы, няхітра напісаны ліст сп. Янкі М. із Заўльгаў, які мы дазволім сабе зацытаваць крыху больш: «Прыпомніліся мне васількі, якія пакрываюць нашую родную зямлю, быццам вячорнаю парою зоркі неба» — перадае сп. М. свае ўражаньні ад факту зьяўленьня нашае газэты, і жадае: «Хай-жа гэная газэта прабіваецца, быццым вада ў пустыні, калі жыды раптам на Майсея. Няхай нашая газэта «Бацькаўшчына» ўваскросіць тых беларусаў, якія духова мёртвыя для Бацькаўшчыны каб кажны, што адрокся, пачуў маральнае паніжэньне, вярнуўшыся быццам блудны сын у выцягнутыя рукі свайго бацькі».

«Мы ніколі не забудзем амэрыканскай улады, якая дала дазвол чытаць газэту ў сваёй роднай мове», — дадае сп. М.

Усе гэтыя выразы зычлівасьці й прызнаньня хвалююць і нас ня менш, пэўна, чымся іхных аўтараў. Мы можам толькі падзякаваць шчыра ўсім нашым братом, што заявіліся разам із намі, і запэўніць іх, што дaложым усіх сваіх сілаў, каб несьці іхным засмаглым па родным слове вуснам хоць тыя бедныя кропелькі гэнае «вады у пустыні», здабыць якія дазволяць гэныя нашыя сілы.

### ДЗЯКУЕМ УСІМ

Апрача прыватных лістоў, Рэдакцыя атрымала й прывітаньні ад розных грамадзкіх дзейнікаў — як нашых, так і чужынецкіх, за якія ўважае за свой абавязак злажыць найглыбейшую падзяку.

Найперш дзякуем — яшчэ раз! — **украінскай газэце «Час»**, брацкая памога якой у здабыцьці нашае газэты ўжо адзначалася намі ў нашым № 1. Цяпер, па выхадзе гэнага нумару, газэта «Час», аж занадта высока ацэньваючы яго (на самой рэчы, з нашага собскага гледзішча, зусім нездавальняючы нас выпуск), цёпла піша: «Цешымся, што нашым братом-беларусам пашчасьціла ўрэшце дастаць дазвол на друк ад амэрыканскага Галоўнага Камандаваньня й жадаем Рэдакцыі як найлепшых удачаў у ейнай працы». Таго самага зычым і мы нашым украінскім братом і калегам.

Таксама дзякуем адміністрацыі **газэты «Новості»**, якая у сваім лісьце да нашага выдавецтва «вітае з выйсьцем у сьвет першага нумару газэты й жадае найлепшых удачаў у добрым пачынаньні».

Дзякуем шчыра і нашым «ратататарным» органам — «Студэнцкаму Клічу», які жадае нам «як найлепшага росту й росквіту, а таксама зьяднаць вакол сябе нашае расьцярушанае ў заходніх зонах Нямеччыны грамадзтва», а таксама ватэнштэцкаму «Шляхам Жыцьця», што ў № 9-10 падае аб выхадзе нашае газэты й спачувальна цытуе галоўныя мясьціны перадавога артыкулу першага нумару.

Нарэшце дзякуем адпраўнікам за наступнае прывітаньне: «Беларускі Пэдагагічны Калектыў народнае школы і ўся грамадзкасьць беларуская, якая пражывае ў украінскім лягеры «Лысенка» ў Гановэры ад усёй душы шчыра вітае выхад у сьвет першага нумару нашай каштоўнай газэты «Бацькаўшчына» і жадае Рэдакцыйнай Калегіі творчых сілаў на карысьць незалежнай нашай Бацькаўшчыны Беларусі. Няхай хутчэй год выданьня першы будзе прадаўжацца на мілай нашай Бацькаўшчыне».

Ці трэба лішне казаць, што апошняе зычэньне было-б і нашым найбольшым жаданьнем?!

# ШУКАЮЦЬ...

Кошт абвесткі — па аднэй марцы за кажнае асобнае слова. Аплата наперад.

**Родных і знаёмых Сіняўскае воласьці Клецкага павету** - Жучка Янка. Весткі на адміністрацыю «Бацькаўшчыны»

Мужа й бацько **Махлая Антона** - жонка Жукоўская Ганна й дачка Яніна. Весткі на адрыс:

**DP Camp Meierwick b/Flensburg über Schleswig-Holstein**

•Бацьку **Каламара Юляна**, дваюраднага брата **Каламара Івана** й сёстраў **Палагею** й **Алену** - ўсе з Палесься - Каламар Іван. Весткі на адміністрацыю «Бацькаўшчыны».

Сына **Ладуцьку Людзвіка**, нар. 1928 г. - бацька Ладуцька Іван. Весткі на адміністрацыю «Бацькаўшчыны»

Сваякоў **Зінкевіча Міхала**, нар. 1920, **Зінкевіча Паўла**, нар. 1922 і **Зінкевіча Канстантына** - усе зь в. Атрадная, Шаркаўскага р., Вялейскай акр. - Зінкевіч Грыгор. Весткі на адрыс:

**Zinkiewicz Grzegorz, High Ash Camp Thetford, Norfolk, England.**

### Ад Беларускага Цэнтральнага Камітэту.

Беларускі Цэнтральны Дапамаговы Камітэт падае да ведама тых грамадзянаў, якія маюць апрацаваныя й падрыхтаваныя да друку школьныя падручнікі для беларускіх пачатковых і сярэдніх школаў, каб неадкладна падалі назовы іх і тыраж Б. Ц. Д. К. на адрыс Беларускага Камітэту на Амэрыканскую Зону.

### ФОНД «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»

Мы самі сумеліся-б ужо ад першых нумароў зварачацца ня толькі па маральнае, але й матар'яльнае падтрыманьне нашае газэты, хоць нашая агульная нацыянальна грамадзкая беднасьць, асабліва на чужыне — не таямніца нікому і з сваіх, і з чужых Аднак, напярэймы нам ідуць ужо самі чытачы, нашыя добразычлівыя й прыхільнікі. Так, бяз усякіх нашых заклікаў ці дапамінкаў, сп. сп **Янка Макарэвіч** і **Уладыслаў Батура** — з зусім розных куткоў (із Заульгаў францускае зоны й зь Любэку ангельскае), усёроўна як згаварыўшыся - аднасчасна прыслалі па 50 марак на нашую газэту. «Абавязваюся штомесяц пасылаць невялікую суму» — піша пры гэтым сп. У. Батура.

Рэдакцыя й адміністрацыя нашае газэты бярэць на сябе адвагу залічыць абедзьве гэтыя складкі нашых шчырых суродзічаў, як **першыя даніны на фонд газэты «Бацькаўшчына»**. Адчыняючы тымсамым прыйманьне ахвяраваньняў на гэты фонд, заклікаем усіх суродзічаў добрае волі й змогі прычыніцца сваймі складкамі на такі фонд, што даў-бы нам магчымасьць стварыць больш-менш трывалую матар'яльную базу для нашага выдавецтва.

Усім, хто памог ужо нам у сяньняшнім сыціплым запачаткаваньні гэтага фонду, і хто прылажыцца да яго ў будучыні — наперад — наш шчыры дзякуй.

Whiteruthenian Newspaper „The Fatherland"
Authorized by Headquarters European Command Civil Affairs Division A P O 757, A. G. 383, 7 GEC-AGO, from October 1947.
Administration - (13 b) Osterhofen, Ndby., Whiteruthenian D. P. Camp.
Printed by : Fr. Ant. Niedermayr, Regensburg; Marschallstr. 1